# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 4 (20) 3 лютага 1929 г. № 4 (20)

ЗЬМЕСТ.



## Школу--пад кантроль савецкай грамадзкасьці.

Школа наша за апошнія два-тры гады мае надзвычайна вялікія дасягненьні ў справе на ыцьця вучнямі фармальных ведаў. Гэтых посьпехаў школа дасягнула дзякуючы завостраньню ўвагі органаў НКА, саюзу і галоўнае—усяе асьветніцкае масы на пытаньні палепшаньня якасьці працы школ у справе набыцьця вучнямі належных ведаў.

Калі ў справе набыцьця вучнямі ведаў маюцца дасягненьні, то ў справе пастаноўкі выхаваньня вельмі шмат ёсьць недахватаў. Узмацненьне працы ў адной галіне выклікала аслабленьне ў другой. Праўда, бягучы навучальны год зьяўляецца пераломным годам у справе павялічэньня ўвагі выхаваньню вучняў у школе. Па ўсёй БССР няма цяпер ніводнага калектыву асьветнікаў, дзе не абгаварваліся-б у тэй ці іншай ступені пытаньні інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня ў школе. Гэта зусім зразумела, бо выхаваньне і і навучаньне—гэта адзіны школьны працэс, які ў нашай школе ня можа быць разлучаны.

У сучасны момант на глебе эканамічных працэсаў адбываюцца глыбокія сацыяльна-клясавыя працэсы, якія характарызуюцца абвастрэньнем клясавай барацьбы на вёсцы і ў горадзе, што ў сваю чаргу адбіваецца на школе, на вучнёўскіх калектывах, у выніку чаго наглядаецца шмат хваробных зьявішчаў у школах.

На канфэрэнцыі **грамадазнаўцаў школ 7-годак Мазыршчыны**, якая адбылася 13 студзеня, выявілася, што ў 7-хгодках ёсьць значны проц. дзяцей сацыяльна-чуждага паходжаньня, якія псыхалёгію і ідэалёгію сям'і і „вуліцы“ нясуць у школу; настаўніцтва ня досыць пільна цікавіцца пазашкольным жыцьцём вучняў, слаба дапамагае вучням у пазашкольнай працы. Ёсьць выпадкі выяўленьня з боку паасобных настаўнікаў грубасьці, лаянкі, як, напрыклад, „асёл“, „хам“, „чучала“ і г. д.

У выніку ўсяго гэтага ўзьнікаюць розныя ідэалёгічна-школьныя ўхілы сярод вучняў. **У Калінкавіцкай 7-годцы**, выявіўся антысэмітызм, яўрэйскі шавінізм, карцёжная ігра сярод вучняў; вучні абманвалі сялян, абменьваючы савецкія крэдытныя білеты 1922 г. на сучасныя грошы.

**У Нараўлянскай 7-годцы** ледзь ня здарылася паміж 2 вучнямі дуэль са ўсімі атрыбутамі—вызавам, сэкундантамі і г. д. Некаторая частка вучняў гэтай-жа сямігодкі наведвае царкву, касьцёл, сынагогу. У адной з 7-годак акругі частка вучняў ніяк ня можа „зразумець“, чаму гэта скарачаюць прыватны гандаль, калі каапэрацыя ня можа справіцца з прасоўваньнем тавараў да спажыўца.

Поруч з гэтым канфэрэнцыя адзначыла, што на хваробныя зьявішчы, якія маюць месца сярод вучняў, недастаткова рэагуюць настаўніцкія калектывы; бываюць выпадкі, калі гэтыя зьявішчы паасобнымі настаўнікамі замазваюцца, упрашчаюцца; адсутнічае грамадзкі кантроль над пастаноўкай працы ў школах, асабліва ў справе пастаноўкі выхаваньня; назіраюцца выпадкі рэлігійнасьці сярод настаўніцтва, праўда, у вельмі нязначнай частцы яго.

Зразумела, што гэтыя факты не зьяўляюцца характэрнымі толькі для Мазыршчыны, яны ў тэй ці іншай ступені праяўляюцца і ў другіх акругах, але ці недастаткова на іх зьвяртаецца ўвага, або знаходзяцца гэтыя хваробныя зьявішчы ў патэнцыяльным стане.

Вось чаму пытаньні выхаваньня ў школе зьяўляюцца актуальнымі пытаньнямі, на якіх павінна фіксавацца ўвага ня толькі настаўніцтва і органаў НКА, але і ўсяе савецкае грамадзкасьці.

Партыйныя і камсамольскія ячэйкі, прафсаюзы павінны больш цікавіцца пытаньнямі жыцьця і працы нашай школы. Неабходна з боку КСМ узмацніць дапамогу і караўніцтва вучнёўскімі арганізацыямі. Трэба, каб аб працы школы, аб яе дасягненьнях і недахватах ведала савецкая грамадзкасьць.

Асабліва вялікая роля ў гэтым напрамку ўскладаецца на прафэсыйныя органы саюзу працаўнікоў асьветы. Удзел саюзу працасьветы ў падняцьці якасьці выхаваўчай працы павінен чырвонаю ніткаю праходзіць праз усю эканомпрацу. Нельга ні ў якім разе абмежавацца саюзу ў справе ўдзелу ў вытворчасьці толькі заслухоўваньнем дакладаў органаў асьветы, вынясеньнем па дакладам рэзалюцый, праверкай выкананьня гэтых пастаноў і г. д. Неабходна цэнтр цяжару вытворчай працы перанесьці непасрэдна ў школу, паглядзець—што там робіцца, выявіць недахваты, прыняць меры да зьнішчэньня іх.

Толькі пры належнай увазе з боку настаўніцтва пытаньню выхаваньня ў школе і мабілізацыі савецкай грамадзкасьці навакол школы магчыма будзе ліквідаваць тыя хібы, якія мае яшчэ сучасная наша школа.

**Яз. Мацюкевіч.**

# За супольную працу настаўніка і агранома.

Працы для агранома ў вас непачаты кут.

На каго павінен апірацца аграном у сваёй працы?

Разумеецца, аграному трэба ў кожнай вёсцы шукаць сабе памоцнікаў, якія памагалі-б праводзіць розныя мерапрыёмствы, вызначаныя дзеля паднясьця і перабудовы сельскай гаспадаркі.

Тут сярод вясковай цемры самым лепшым памоцнікам можа быць настаўнік. Большасьць нашых школ надзелена зямлёй, якая павінна зрабіцца базай па правядзеньню рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы. Настаўнік павінен стаць лепшым сябрам і памоцнікам агранома ў правядзеньні агрыкультурных мерапрыёмстваў на вёсцы.

Нажаль, на справе гэтага няма. Калі мы паглядзім на ўзаемаадносіны аграномаў і настаўнікаў, дык убачым што яны жывуць кожны сам сабе, супольнасьці ў іхняй працы ня відаць.

Даўней на сельска-гаспадарчую працу настаўніка начальства глядзела коса і лічыла яе малакарыснай для школы, але насельніцтва даражыла такім настаўнікам і бачыла ў ім свайго роду інструктара. Яно ішло да настаўніка на параду і старалася рабіць так, як робіць настаўнік.

У такіх настаўніках аграном можа мець вельмі карысных памоцнікаў.

Школьны вучастак павінен быць дасьледчым полем, на якім павінны вучыцца як дзеці-вучні так і старыкі бацькі.

Нашы настаўнікі далёка ня ўсе могуць быць памоцнікамі агранома. Як даўней, так і цяпер яшчэ шмат выпускаецца беларучак якія баяцца прыткнуцца да зямлі, каб не абрабіць рук. Яны лічаць за вялікую зьнявагу калі іх пасылаюць на вёску, а вёска таксама ня вельмі шануе такіх настаўнікаў.

Але ў вёсцы ёсьць многа настаўнікаў, якія хочуць быць карыснымі ў справе перабудовы нашай сельскай гаспадаркі. Яны просяць дапамогі ў сваёй працы, але не заўсёды яе маюць.

Дзеля прыкладу возьмем **Лагойскі район** (Менскай акр.). У 1926 годзе настаўніцкая канфэрэнцыя прасіла зрабіць у районе для настаўнікаў сельска-гаспадарчыя курсы. Акруговы зямельны аддзел з гэтым не згадзіўся, лічучы районныя курсы не карыснымі. Прайшоў год, гэта пытаньне ўзьнялі другі раз—і на гэты раз нічога ня вышла. Вось вам яскравы прыклад таго, як не дапускаюць настаўнікаў да аграномічных ведаў. Ніразу на районную канфэрэнцыю асьветнікаў не паказаўся аграном, каб завязаць сувязь з настаўніцтвам. Летась на веснавой канфэрэнцыі некаторыя настаўнікі злавілі районнага агранома на ганку ў школе, дзе праводзілася канфэрэнцыя, і прасілі зайці і сказаць некалькі слоў, як весьці гаспадарку на школьных вучастках, але ён уцёк і больш не паказаўся.

Згодна школьнаму статуту, вясковая школа павінна мець с.-гаспадарчы ўхіл, але пакуль што гэты ўхіл толькі на паперы, а на справе нічога ня робіцца. Трэба хутчэй падштурхнуць школу да аграномічнага ўхілу і падрыхтаваць да гэтага вясковых настаўнікаў. А аграномам трэба старацца скарыстаць настаўніцтва ў сваей працы, уцягваючы яго ў складаньне плянаў працы.

Без уцягваньня настаўніцтва ў аграномічную працу мы доўга будзем таптацца на месцы.

Я. Сапрык.

Лагойскі р., Мен. акр.

# Праблема палавога выхаваньня.

Пытаньне аб палавым выхаваньні дзяцей і падлеткаў паднята было у нас на Беларусі ўпяршыню ў 1923 г. некаторымі дактарамі на чале з інспэктарам аховы здароўя дзяцей пры Нар. Кам. Аховы Здароўя.

Пытаньне па сутнасьці сваей вельмі важнае і патрабуе дасканалай распрацоўкі як у сэнсе азначэньня самага зразуменьня і ахопу, так і з боку мэтадалёгіі.

Ня гледзячы на складанасьць праблемы, подступ быў зроблены паверхновы і ня зусім правільны.

Дадзены быў загад школьна-санітарным дактарам, амаль што ў тэрміновым парадку, аб правядзеньні палавога выхаваньня ў школах і дзіцячых дамох.

Вядома, загадамі гэткага пытаньня ня вырашыць, і шмат з дактароў паставілі пытаньне рубам—а што трэба разумець пад палавым выхаваньнем? Зразумела, пытаньне правільнае.

Была невялічкая дыскусія ў друку на старонках «Сав. Беларусі», але ўсё гэта павісла ў паветры, і нічога не рабілася ў гэтым напрамку.

Цяпер, як відаць было з некалькіх апавяшчэньняў у газэтах, працуе спэцыяльная сэкцыя па палавому выхаваньню. Гэта вельмі добра, але мне здаецца, што гэткае пытаньне, як **палавое выхаваньне** ня можа быць вырашана як загадамі (1923 г.(, так і габінэтным мэтадам. Яно можа быць вырашана толькі **грамадзкасьцю** ў шырокім зразуменьні гэтага слова, бо ні дактары адны, ні пэдагогі адны ня могуць правільна разьвязаць гэткае пытаньне, якое ўплятаецца ва ўсё наша грамадзка-сямейнае жыцьцё, правільнае-ж вырашэньне гэтага пытаньня мае вялікую значнасьць для ўсей грамады ўцалку.

Значыць, трэба гэту праблему вывесьці з габінэту дзеля вырашэньня на сьвежае паветра ў выглядзе грамадзкіх дыспутаў, лекцый, у друк.

Трэба прыцягнуць сюды ўсю савецкую грамадзкасьць, мэдыцыну і бацькоў, бо мы ведаем, што школа пакуль што ў выхаваньні наогул грае меншую ролю, чым сям'я і грамада.

Гэткая пастаноўка будзе асьвяжаць габінэтную працу, якая бязумоўна карысна і патрэбна дзеля распрацоўкі больш дэтальна і глыбока пытаньня.

Стварэньнем спэц. сэкцыі па палавому выхаваньню бязумоўна зроблен значны крок наперад у галіне пэдагогікі, бо пытаньне аб палавым выхаваньні даўно насьпела, яго трэба разьвязаць, але разьвязаць з адпаведнымі групамі грамады.

Толькі з удзелам насельніцтва мы зможам вырашыць праблему палавога выхаваньня.

У дарэвалюцыйнай школе гэта пытаньне «вырашалася» клясными дамамі і настаўнікамі праз паліцэйскі нагляд за палавымі адносінамі моладзі.

Цяпер, калі ў нас зьмяніліся формы жыцьця наогул, зьмянілася сыстэма выхаваньня,—трэба стварыць і новыя формы палавога выхаваньня, якое пакуль што зусім адсутнічае.

Вырашэньнем гэтага пытаньня будзе разьвязана наогул палавая праблема, якая стаіць перад моладзьдзю пакуль што пад знакам пытальніка.

Тады выкуецца здаровы і рэальны погляд на ўзаемаадносіны полу, і моладзь сама знойдзе тыя рэальныя формы, у якія павінна быць укладзена палавое жыцьцё, а ад гэтага ў вялікай меры залежыць ахова здароўя моладзі, актыўнасьць у грамадзкім жыцьці і нават сьветапогляд наогул.

М. Говэр.

# НА ПЕРАВЫБАРЧЫМ ФРОНЦЕ.

## Вада на кулацкі млын.

(Слуцкі район, Бабруйшчына).

Наша настаўніцтва, як перадавы актыў і насіцель пралетарскай культуры, не адзін раз заклікалася да актыўнага ўдзелу ў перавыбарах саветаў, да арганізацыі беднаты дзеля атпору кулацтву.

Але частка настаўніцтва Случчыны засталася глухою да гэтага закліку і жвава алгукнулася на кліч кулацтва і антысавецкіх элемэнтаў.

Прыввяду некалькі жывых характэрных прыкладаў.

Настаўнік **Баслаўскай школы Завістовіч**, як найлепш узмацніў саюз з мясцовым кулацтвам і актыўна галасаваў на перавыбарчым сходзе за кулацкія кандыдатуры. Ніводнага голасу не падаў за кандыдатуры, выстаўленыя сходам беднаты, адгэтуль трэба разумець—сярод каго і якую ён падрыхтоўчую працу праводзіў.

Ня лепшую працу правяла і настаўніца **Селішчскай школы Мінаева**. Калі выстаўляюцца кандыдатуры беднаты, а кулацтва ўсімі мерамі імкнецца прасунуць свае кандыдатуры ў савет, дык настаўніца выступае і кажа, што бедняка малапісьменнага ня трэба абіраць у савет, бо ён ня зможа працаваць, а трэба абраць Н..., скончыўшага сямігодку (кулацкая кандыдатура).

Ёсьць і такія, што бягуць ад перавыбараў, як ад чумы. Настаўнік **Быкаўскае школы Тамковіч**, замест таго, каб правесьці падрыхтоўчую працу, зьехаў у свой родны кулацкі засьценак Лядкі і носу не паказаў на перавыбары.

У той час, калі ў Бокшыцкім сельсавеце вядзецца антысавецкая праца па зрыву перавыбараў, настаўнік **Кухцянскай школы Крываль** абціраецца ў запечку і нават на перавыбарчым сходзе кулацкае натхненьне так завадзіла яму горла, што не прамовіў ні слова.

Апошні «перадавік»-настаўнік **Каліцянскай школы Куровіч**. Гэты так завьяваў аўтарытэт сярод насельніцтва, што калі выставілі яго кандыдатуру ў склад сельсавету, дык не атрымаў ніводнага голасу.

Пакапаўшыся і яшчэ можна знайсьці выпадкі, калі асьветнікі актыўна або па сваей затхласьці падтрымліваюць кулацтва.

Л.

## Наказ піанэраў.

(Лагуны, Гомельскага раёну і акругі).

Наша школа своечасова стала рыхтавацца да перавыбараў саветаў.

Школьнікі і піанэры, супольна з камсамольцамі, хадзілі па хатах выклікаць на сход, а потым заставаліся дома і пасылалі бацькоў. Піанэры напісалі наказ будучаму сельсавету.

У наказе ўстаўлены пункты: 1) дабіцца палепшаньня адносін бацькоў да піанэраў, 2) адпусьціць піанэрам і школьнікам вучастак зямлі пад паказальную апрацоўку.

Гэтыя пункты вельмі зацікавілі бацькоў.

П. М.




Наказ вучняў Дзегтяроўскай школы (Заслаўскі раён) новаму сельсавету.

## Ня ўсё настаўніцтва абудзілася.

Настаўніца школы ў вёсцы **Грэбнеўскай Слабодзе** зарганізавала дзяцей, каб яны пабылі дома (таксама і ў суседзяў) у часе перавыбарчага сходу, калі ўсім дарослым трэба ісьці на перавыбары. Гэта-ж настаўніца актыўна выступала супроць кулацкіх кандыдатур.

Гэткім-жа чынам з'арганізавала школьнікаў і настаўніца ў вёсцы **Васількох** (Бялыніцкі раён), яна-ж упрыгожыла памяшканьне школы да дню перавыбараў.

Настаўніца **Новікава** (Шклоўскі раён) на сходзе актыўна абараняе бядняцкіх кандыдатаў ад кулацкіх нападкаў.

Нажаль, ня мала можна адзначыць выпадкаў, калі актыўнасьць настаўніцтва звярачваецца ня ў той бок.

**У Забалоцьці** (Бялыніцкі раён) настаўнік, замест перавыбарчае працы, ходзіць толькі па вячорках. Гэтая пасыўнасьць у адносінах да перавыбараў зьяўляецца актыўнай дапамогай варожаму нам боку.

„**Хто ў спадніцы, за таго я не галасую**",—заяўляе на сходзе ў вёсцы Борках нейкі грамадзянін, які нейкім пудам дагэтуль яшчэ зьяўляецца настаўнікам тамашняе школы.

Настаўнік з вёскі **Кучына** выступае на сходзе беднаты супроць рэзалюцыі гэтае беднаты.

І ў вёсцы **Малых Амхінічах** аб'явілася настаўніца-падкулачніца **Астапенкава**, якая галасуе за кандыдатуру кулацкага падпявалы Бараноўскага, а пры галасаваньні партыйнага кандыдата ўстрымліваецца ад галасаваньня: «Я мала яго ведаю», а між тым сама паходзіць з тэй-жа самай вёскі, што і гэты кандыдат. Затое, калі Астапенкаву выставіў нехта ў сябры рэвізійнай камісіі, дык яна была аднагалосна... правалена.

К—к.

Магілеўская акруга.

# Чужыя людзі ў Савецкай школе.

Высокага росту, з чорнай барадой, у бякэшы, з палачкай у руках. Гэта—**загадчык Смалявіцкай Беларускай сямігодкі Палтаржыцкі.** (Менская акруга).

«Барын» або «Махно» як яго вялічаюць уцішку некаторыя. Абедзьве назвы падыходзяць да яго, характарызуюць яскрава.

Барскае, аж да вопрыкаў на вартаўніка школы, засталося ў яго прывычках.

Махноўскае—«а, жыдзюкі, паршыўцы, бі іх»!?!

І гэта загадчык раённай сямігодкі, дзе вучыцца, дзе выхоўваецца 376 чал. дзетвары, і падлеткаў!

Высокая, чарнабровая, у паліто малочнага колеру, у цьвяцістым шарфіку гэта—**настаўніца грамадазнаўства гэтай-жа сямігодкі Ткачова.**

Нешта зноў такі «барскае» ў рысах твару у характары.

Зноў такі—антысавецкі настрой.

**Палтаржыцкі**—былы дырэктар аднаго з рэальных вучылішч. Падзяленьне школьнага штату на «белую» і «чорную» косьць бачыць і цяпер у савецкай школе. На пасяджэньні Школьнай Рады, калі думка вартаўніка школы разышлася з думкай загадчыка, апошні лішае голасу «чорную косьць», бо—„ты вартаўнік, твая справа з мятлой, а не ўмешвацца ў справы кіраўніцтва школай».

Займаецца ў Белар. сямігодцы вячэрняя школа рабочай моладзі, якая мае дзьве групы. Адна з груп займаецца на беларускай, а другая на яўрэйскай мове. Якраз не працуе электрастанцыя. У беларускую групу даецца лямпа, а яўрэйская—можа пачакаць, бо там займаюцца „жыдочкі“.

Палтаржыцкі свае антыпатыі да настаўнікаў яўрэйскай сямігодкі выказвае у кароткім слове, «жыдочкі».

— Ого! Гэта табе не беларус, у яго галава, бо ён (настаўнік)—яўрэйскай сямігодкі, „жыдочак“!

— За «жыдамі» няма як жыць «истинно-русскому» чалавеку...

Цяпер «жыдочкі», а за вугла „бей жидов“.

Вось усё, што засталося ў Палтаржыцкага ад былога «барына», дырэктара рэальнае школы, што засталося з праграмы бандыта Махно і да яго падобных.

* * *

Пасяджэньне Школьнае Рады 18 студзеня 1929 г. Разглядаецца пытаньне аб Ленінскіх днёх: Што школа павінна зрабіць у гэтыя дні.

**Настаўніца грамадазнаўства Ткачова** «лагодненька» выступае ў абарону праграмных пытаньняў і кажа:

**—Дакуль гэта мы будзем кожны год цацкацца з гэтым Леніным? Ды я не ахвярую аніводнае гадзіны са сваіх праграмных пытаньняў на тэму пра гэтага Леніна!**

Вы, чытачы, мабыць, падумаеце, што за такое выступленьне Ткачовай на пасяджэньні рады, атрымала добры адпор?

О, не! Яе сустрэлі ўсьмешкамі і радаснымі кіўкамі галоў. Кожнаму выступленьне Ткачовай прышлося да густу: **у ім—думкі амаль што ўсіх настаўнікаў сямігодкі.**

Лекцыя па грамадазнаўству, тэма «ці ёсьць эксплёатацыя на фабрыках і заводах дзяржаўнай прамысловасьці».

Кожны, хто мала-мальскі знаёмы з палітграматай, адкажа, што эксплёатацыі тут няма. Але па думцы і поглядах настаўніцы грамадазнаўства гэта ня так. Па яе, эксплёатацыя ёсьць і вучань ня сьмей супярэчыць.

Вось вам яскравыя факты аб антысавецкім настроі, аб антысэмітызьме, якія махровым цьветам распачаўцьвісьці ў смалявіцкай сямігодцы, якім заражаюцца вучні. Улюблёныя словы вучняў—«жыд», «паршывец». Такія вынікі выхаваньня ў савецкай школе.

Не выхаваньне, а калецтва; выхаваньне ня новага чалавека, а месгачковага мешчаніна абывателя.

І гэта ня дзіўна, бо большая палова настаўнікаў сямігодкі мае свае гаспадаркі і лічыцца заможнікамі.

А некаторыя, як Вашчынская, Іваноўская,—нават зьвязаны з папамі.

Погляды чужых вам сацыяльных груп кулацтва пераносяць у школу. Каверкаюць палітыку Савецкай улады, палітыку партыі.

Гэтага быць не павінна. Гэтыя варожыя савецкай пралетарскай дзяржаве погляды трэба з савецкай школы выжыць.

Адпаведныя органы павінны зрабіць ачыстку школы ад падобнага сьмецьця.

Савецкая грамадзкасьць гэтага чакае.

**Чабор.**

# Асьветнікі--у першых шэрагах.

(Аршаншчына).

Першыя вынікі выбараў у сельсаветы Аршаншчыны кажуць, што асьветнік у большасьці сваёй сваім актыўным удзелам у перавыбарах выконвае пастаўленую перад ім задачу.

Асаблівa актыўны ўдзел у выбарах прымаюць асьветнікі **Крупскага і Чарэйскага раёнаў.**

Амаль што ў кожным выбарчым вучастку пасьля сходаў ладзяцца спэктаклі з вучнямі ці вясковай моладзьдзю. У адной вёсцы настаўніца з вучнямі прайшла праз вёску з лёзунгамі і пяяньнем беларускага гімну. Школы ўвешаны лёзунгамі і плякатамі. У Чарэйскім раёне на адным выбарчым вучастку ў кожнай сялянскай хаце, дзе ёсьць вучань, было намалявана: «Тата і мама! Памятай, што табе трэба ісьці на выбары савету, а я застануся берагчы хату».

Настаўніца перад выбарамі абходзіць хаты, зьбірае жанчын, і ўсе разам, арганізаваным парадкам ідуць на сход. Ёсьць яшчэ шмат прыкладаў жывой ініцыятывы асьветніка, яго актыўнага ўдзелу ў кампаніі.

Але побач з гэтымі станоўчымі момантамі ёсьць і адмоўныя, напрыклад, адна настаўніца Аршанскага раёну ня толькі не праводзіла ніякай падрыхтоўчай працы да выбараў, але ў часе выбараў, каб не аддаць свой голас беднаце, рашыла на гэты час паехаць у госьці да суседа. Трэба Аршанскаму РМК зацікавіцца гэтай выхавальніцай нашага маладога пакаленьня.

**М. Шумейка.**

# Школьны каапэратыў.

(м. Старобін, Бабруйшчына).

Яшчэ ў 1926 годзе наша сямігодка задумала арганізаваць свой школьны каапэратыў. Але тады гэта не ўдалося. І толькі ў гэтым годзе школьны вучнёўскі актыў, з дапамогай настаўніцтва, узяліся за гэту справу.

Вельмі радасна вучні сустрэлі адчыненьне каапэратыву „Каапэрацыя—шлях да сацыялізму“, высіць лёзунг над шафай з вучнёўскім каапэратывам. І ня толькі вучні, але і бацькі задаволены.

У каапэратыве ёсьць кнігі, папера, атрамант і г. д. Каапэратыў зьвязан з маскоўскім кнігавыдавецтвам, ад якога і атрымлівае тавар. Сваім пайшчыкам каапэратыў усё дае ў крэдыт. Пастаноўка справы ў каапэратыве, бязумоўна забясьпечвае, яму далейшы росквіт.

**М.**

# Амсьціслаўскія кіты.

У часе самай напружанай барацьбы за культурную рэвалюцыю амсьціслаўскія „кіты“ праводзяць уласную лінію, якая вельмі далёка ад тэй, што прапануецца партыяй і савецкай уладай.

У мінулым годзе народнай асьветай кіраваў інспэктар **Самуйлаў**, а дапамагаў яму вядомы ўсім старшыня мясцкому працасьветы **Шалабодаў**. Аб «дапамозе» Шалаболава «Савецкая Беларусь» і іншыя газэты друкавалі шмат. Цяпер некалькі слоў аб Самуйлаве.

З акту рэвізійнай камісіі РВК высьветлілася, што ў мінулым бюджэтным годзе не скарыстана па нарасьвеце каля 5.000 руб. па віне Самуйлава, які ня ведаў свайго бюджэту. Што-ж гэта за грошы? А вось: не скарыстаны сродкі на ліквідацыю няпісьменнасьці, на выпіску літаратуры хатам-чытальням, на іх абсталяваньне, апал.

Школы і хаты-чытальні на раёне знаходзяцца без належнага абсталяваньня і частка без апалу. Мінулым годам выслалі календары на школы, а 40 штук засталося ляжаць у скрыньцы РВК да сёлетняга году.

Куды-ж папала „эканомія“ па нарасьвеце. О, амсьціслаўскія «кіты» знайшлі месца: перавялі іх на адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі РВК, павялічылі бюджэтную суму на камандыроўкі. І яшчэ вельмі пікантная дробязь: **рублёў 300 выдалі на дапамогу асобным сябрам РВК дзеля падняцьця іхнага „дабрабыту“.** Як вам гэта падабаецца? І гэта пасьля таго, як былі дадзены дырэктывы аб 20 проц. зьніжэньні адміністрацыйных выдаткаў! Інспэктар Самуйлаў прамаргаў такое здарэньне.

Некалькі слоў аб выдаткаваньні сродкаў камісіі па дапамозе беспрытульным, старшынёй якой быў Самуйлаў. Пераводзіцца ў другое месца сакратар РВК, **патрэбен яму падарунак—бяруць 30 руб. са сродкаў камісіі.** Едзе ў Воршу Самуйлаў—і ён бярэ 40 руб.

Самуйлава ўбралі. Прызначылі на яго месца **Сарокіна**, вузаўца. Вы думаеце, што гэты пачау папраўляць памылкі Самуйлава? Мыляецеся. Сарокін «знаёміцца» з раёнам і... **выкладае геаграфію ў II-й сямігодцы.** Лікпункты не працуюць да сьнежня 1928 г., бо няма кніжак і пісьмовых прылад, частка школ без апалу, аб хатах-чытальнях невядома, бо Сарокін лічыць непатрэбным зьвяртаць увагу на такую «дробязь». Прыслалі на новыя школы геаграфічныя карты, а яны і цяпер ляжаць у скрыньцы. А школы бяз карты, на сьцэнцы паказваюць гарады, рэчкі і інш. Арганізавана раймэтбюро. Думаце, што Сарокін цікавіцца ім? Таксама мыляецеся. Яму некалі, ён заняты чалавек.

Мэтбюро працуе без яго, а вельмі каштоўны для школ матар'ял тыднямі немагчыма накіраваць у школы. Сарокіну некалі таксама ехаць у школы. Школы працуюць без кіраўніцтва інспэктара. Расхлябанасьць Самуйлава і Сарокіна прымусілі зьняць іх з пасады. Але можа хто падумае, што іх пакаралі? Не, зноў-жа мыляецеся. У Самуйлава ёсьць добры прыяцель—гарадзкі інспэктар асьветы ў Воршы **Аляксейчык**. Ён тэрмінова дае тэлеграму Самуйлаву: «давай згоду на прызначэньне раінспэктарам у Талочынскі раён». Але Самуйлаў—ня дурань. Ён дабіўся лепшага: яго прызначылі выкладчыкам грамадазнаўства ў Аршаэскую чыгуначную дзевяцігодку на 180 руб. Трэба адзначыць, што Самуйлава не крыўдзілі і ў Амсьціслаўлі, апрача інспэктарства ён быў і выкладчыкам сямігодкі.

А што з Сарокіным? Тут справа больш цікавая. Каб даць яму пасаду па яго здольнасьцях, **РВК выносіць пастанову аб зьняцьці з пасады загадчыка Шамоўскай сямігодкі і аб прызначэньні на яго месца Сарокіна.** Але Сарокіну патрэбны і лекцыі. І гэта можна. **Пераводзяць у пачатковую школу настаўніка Кнышава.** Усё зроблена, усё добра, усе задаволены.

Так амсьціслаўскія «кіты» атрымліваюць кару за свае злоўжываньні. Старшыню РВК **Гайдарава** хоць і зьнялі з пасады, але пусьцілі на волю, Самуйлаў атрымлівае 180 руб. і сьмяецца, Сарокін—загадчык сямігодкі, Шалабадаў таксама. Такія справы ў кожнага выклікаюць абурэньне і думку: «калі можна «кітам», дык можна і нам»

Быў тут і акруговы інспэктар асьветы тав. **Акулік**, але вынікаў яго абгляду пакуль што ніякіх ня даў. Спадзяёмся, што „Савецкая Беларусь“ дапаможа.

**Вока.**

---

# Пошта, пашкадуй падпісчыкаў.

Кожная нарада прафдэлегатаў, пасяджэньні культкамісій, мясцкому, агульныя сходы-канфэрэнцыі асьветнікаў не абыходзяцца без затрыманьня ўвагі на выпісцы і папулярызацыі сярод шырокіх колаў насельніцтва газэт і часопісаў і кожны раз сустракаеш такія факты, ад якіх далей ісьці няма куды.

— Як, кажа асьветнік—вы адважваецеся заклікаць нас падпісвацца ды яшчэ і папулярызаваць перыядычную літаратуру, калі яна, хочаш выпішы, хочаш не, дык усё роўна ня прыходзіць.

— Выпісаў я—кажа асьветнік,—педагагічны часопіс на тры месяцы, а атрымаў усяго адзін нумар.

— А я, кажа другі,—выпісаў газэту, дык яна раз у год возьме ды прыблудзіць, а то няма яе, і няма. А то і так: выпішаш на год газэту з дадаткамі, дык дадаткаў за год ніводнага не атрымаеш.

Зьвернешся на тураўскую пошту, як-жа, браткі, мне грошы каштуе, працоўная-ж капейка, карысны адпачынак хачу мець. А контрагэнт па падпісцы на тураўскай пошце т. Буда адказвае:

„Мы напішам, так, мы напішам! Мы пісалі, нам паведамілі, што вышлюць. Ды так і год прайшоў, а літаратуры і няма.

Такім чынам, і рад-бы, ды грахі ня пускаюць—кажа член саюзу. Лепш кажа, нічога ня выпішу, хоць грошы цэлы будуць.

Такім казённым адказам, як „мы напішам“, „мы напішам“, абмяжоўвацца нельга.

А не, дык проста заявіце:

— Не плаціце грошы, хлопцы, бо не атрымаеце таго, чаго хочаце.

А як пачнеш шукаць вінавайцу, дык т. Буда адразу папярэджвае:

— Усё роўна вы вам нічога ня зробіце, бо гэта Жыткавічы вінаваты.

А часам 24-га чысла войдзесься ды спытаешся:

— Ці можна было-б падпісацца на часопіс?

А табе ў адказ:

— Калі назва часопісу падкрэслена ў каталёгу, дык можна, а калі не, дык выбачайце—пераводам.

Чаму гэта такая розьніца—не разумею.

Я ўжо ведамасьць склаў і дадаваць ня буду, бо гэта шмат працы, дык вы лепш пераводам.

Такія факты ёсьць, і з імі трэба змагацца. Змагацца ўпарта і рашуча, каб пядбайныя адносіны аднае асобы не адбіваліся шкодна на агульна-грамадзкай справе.

**Туравец.**

Тураў, Мазыршчына.

